№ 12 (128). Вільня, 25 Мая 1938 г. Год X.

Шлях Моладзі

Šlach Moładzi

ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

# Вітаем „Шлях Беларускага Студэнта“!

Цяпер вельмі часта з боку старэйшых людзей можна спаткаць нараканьні на моладзь, што яна бязідэйная, распусная, маладзейная і г. д. Фактычна, нараканьні гэткія, да некаторай меры, зьяўляюцца традыцыяй. Бо заўсёды людзям старэйшым здаецца, што іхняя моладасьць была далёка больш вартаснай, а нават культурнейшай, чымся моладасьць наступных пакаленьняў. Але ня будзем тут бараніць сучаснае моладзі „традыцыяй нараканьняў“, а паставім адкрыта пытаньне, ці сапраўды так кепска ёсьць з нашым маладым пакаленьнем?

Вось-жа — і так і не! Закіду бязідэовасьці, дэмаралізацыі і бяздзейнасьці, бязумоўна, усёй моладзі ставіць ня можна, бо ёсьць аднак шмат маладых людзей ідэйных, якія працуюць для справы грамадзкае агульна-народнае і нават церпяць за гэта. Але ўсё-ж такі кажуць, што людзі драбнеюць, і то драбнеюць ня толькі фізычна, але і духова. І сучаснаму пакаленьню моладзі, агулам беручы, можна далёка больш зрабіць закідаў, чымся пакаленьням папярэднім. Возьмем напрыклад моладзь студэнцкую. Хто-бы перад сусьветнай вайной спадзяваўся, што студэнт возьме кій і кінецца на работніка, ці селяніна, калі той будзе дэманстраваць сваю клясавую прыналежнасьць, свае перакананьні іт.п. Або хто думаў-бы, што студэнты пойдуць біць шыбы? Такія думкі нават былі-б абразаю для тагочаснага студэнта, бо ён думаў аб справах вышэйшых, ён ішоў у народ, у працуючыя масы і стараўся ім памагаць і паляпшаць іх быт. Сяньня мы бачым зусім што іншае. Сяньня ўжо нават людзі і ня дзівяцца, калі студэнты б'юць шыбы, або нападаюць на работнікаў. Праўда, мы беларусы можам яшчэ цешыцца, што беларускія студэнты не парвалі зусім з прадваеннымі прыгожымі студэнцкімі імкненьнямі. І нашым студэнтам ня страшны мазалі, і ня стыдаюцца іх. Аднак-жа духовае здрабненьне праяўляецца і сярод нашае моладзі. Нават сярод беларускіх студэнтаў можам ужо спаткаць людзей бяз энэргіі, без амбіцыі, нясьмелых і няшчырых нават у адносінах да сваіх калегаў. Вельмі характэрна выявілася гэта між іншым на адным сходзе.

Выбіралі старшыню арганізацыі. Кандыдатаў было шмат, але адзін толькі прыняў кандыдатуру і яго выбралі аклямацыяй. Аднак выбраны старшыня меў сваю амбіцыю і хацеў ведаць, у якіх варунках ён сапраўды выбраны, ды колькі мае сабе прыхільнікаў, а колькі апазыцыянэраў і зажадаў правядзеньня галасаваньня. Кіраўнік сходу, за згодай усіх прысутных, правёў галасаваньне адкрытае. І проціў выбранага старшыні адкрыта галасаваў толькі адзін студэнт. Такі аднак вынік галасаваньня не здаволіў выбранага і ён папрасіў зрабіць галасаваньне тайнае. І ўжо ў тайным галасаваньні праціўнікаў аказалася 9-цёх.

Такі маленькі і здавалася-б малаважны абразок гаворыць вельмі многа. Людзьмі паважнымі тут, ясна, паказаліся старшыня, ягоныя староньнікі, што галасавалі за яго тайна і той апазыцыянэр, што адкрыта галасаваў проціў. З гэткім апазыцыянэрам, калі ён такім ёсьць з праканання, а ня з іншых вонкавых прычынаў, ці з прычыны перарosту амбіцыі, — што ёсьць рысай бязумоўна ад'ёмнай, — можна працаваць, з такімі апазыцыянэрамі трэба лічыцца, цаніць іх і нават шанаваць. Людзі, якія ўсё робяць спадцішка, гуляюць у канспірацыю тады, калі няма абсалютна патрэбы, гэта людзі непаважныя, а нават небясьпечныя, бо няшчырыя. У людзей-жа няшчырых, закрытых, бяз цывільнае адвагі, праяўляюцца і іншыя ад'емныя рысы. У такіх тыпаў цяжка ўбачыць граніцу дабра і зла, бо няведама, дзе праца сапраўды шчырая, карысная, а дзе подступ і правакацыя. Урэшце, ці будзе якая карысьць грамадзянству, народу, з тых адзінак, каторыя ня могуць шчыра выказацца ў сваім асяродзьдзі, у асяродзьдзі сваіх калегаў, дзе ім за гэта нічога не грозіць? — Хіба што не. Мне здаецца, што такія людзі прад сільнымі гэтага сьвету гатовы забыцца нават свайго ўласнага імя, а ня толькі стаць у абароне агульных інтарэсаў. Людзі, якія робяць усё спадцішка, бязіменна, „з-заплоту“, найчасьцей за плотам і астаюцца.

Усё гэта прыйшлося разважаць спаткаўшыся з праектам стварэньня органу беларускага студэнцтва. І сапраўды, дужа цешымся, што знайшлася такая група студэнтаў, якая хоча ўзяцца за працу, якая ставіць сабе высокія ідэалы нацыянальнае беларускае працы, а так-жа імкнецца да стварэньня кадраў маладых ідэйных, стойкіх змагароў

## З цыклю ей

* * *

*Я ад цябе нічога не хачу...*
*і даць табе —*
*ня дам нічога, —*
*дык не стаі ты мне ўваччу*
*і не заві з сабой ў дарогv,*

*Пражытых дзён нам не вярнуць,*
*і на‘т вяртаць было-б ня трэба.*
*Мы пракладаем новы пуць*
*да сонца, радасьці і хлеба.*

*Ў радох ты нашых не ўстаіш,—*
*ты для таго за надта квола, —*
*нашто дарма ісьці на крыж,*
*жыцьцё, —*
*разумна і вясёла.*

*Дык не заві мяне з сабой...*
*Няхай расходзяцца дарогі.*
*Ты—ў прыстань, дзе залёг спакой,*
*я — праз барацьбу —*
*да перамогі.*

*М. МАШАРА*

для дабра агульнага і для дабра Беларускага Народу. Ахвотна йдучы на спатканьне гэтай групе студэнтаў, якую прадстаўляе Рэдакцыйная Калегія далучанага да гэтага нумару „Шляху Моладзі“ дадатку „Шляху Беларускага Студэнта“ — вітаем яе і жадаем плоднае працы!..

Вітаем і жадаем, каб перадусім „Шлях Беларускага Студэнта“ прычыніўся да таго, каб з беларускае студэнцкае моладзі выходзілі добрыя, чэсныя, ахвярныя, адважныя і стойкія беларусы, годныя імя сыноў Беларускага Народу!..

Я. Н.

# Дамагаемся беларускага ліцэю!..

*Школьны годканчаецца. Моладзі і бацьком паўстаюць новыя хлопаты. Адны пераходзяць з аднае клясы ў другую, другія астаюцца ў тых самых клясах што былі, трэція канчаюць адны школы і шукаюць другіх, а колькі-ж ёсьць такіх, што хацелі-б вучыцца, хацелі-б ісьці наперад, але ня маюць дзе і за што!.. Сумныя разважаньні!.. Сумныя яны асабліва для нас беларусаў... У нас можа найбольш адчуваецца гэта нястача, нястача школаў, школаў у роднай беларускай мове і магчымасьцяў матарыяльных, без каторых у сучасных абставінах нельга здабыць навукі. Успамінаем гэтае пытаньне не дзеля пустое дэклямацыі, а дзеля таго, каб прыпомніць усім, каторыя кіруюць культурным жыцьцём, што моладзь беларуская патрабуе асьветы, роднае беларускае школы пачаткавае і сярэдняе, што моладзь гэта часта бродзіць у пацёмках і зыходзіць на блудны цёмны шлях разбою і дэмаралізацыі.*

*Тымчасам абыймо беларускае школы ўсьцяж зьмяншаецца. Рэформа сярэдняга школьніцтва абцяла і беларускай гімназіі ў Вільні старэйшыя клясы, на іх-жа месца дасюль не паўстаў ліцэй. Не дапускаем думкі, каб нагода рэформы школьніцтва ў Польскім Гаспадарстве была выкарыстана дзеля таго, каб беларусам сталася крыўда, тым больш, што быццам былі з боку школьных уладаў абяцаньні, што беларускі ліцэй агульна-навучаючы будзе адчынены. У кожным разе тое, што дагэтуль яго няма, абвявае сумам кожнага беларуса.*

*Адчуваецца так-жа вялікая патрэба адчыненьня раўналежных клясаў у беларускай віленскай гімназіі, да якое кандыдатаў прыбывае штораз больш.*

*Беларускае грамадзянства ня маючы цяпер, пасьля ліквідацыяў, сваіх беларускіх арганізацыяў, ня мае нават магчымасьці належна выявіць сваіх жаданьняў. Ня гледзячы на гэта, жаданьне сваіх беларускіх школаў як у народзе, так і ў кругох беларускае інтэлігенцыі ёсьць вялікае і яно не загіне, не заглохне!..*

*Канстытуцыя Рэчыпаспалітай гварантуе ўсім грамадзянам правы на разьвіцьцё свае культуры, а таксама і правы да школы ў роднай мове. Дзеля гэтага чуемся ў абавязку прыпомніць аб волі беларусаў грамадзян Польскага Гаспадарства.*

*РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ „ШЛЯХУ МОЛАДЗІ“.*

Dr. Jadviha i Stanisłaŭ Hrynkievičy

8)

## Umovy i zahady nieabchodnyja dla zdaroŭja

### Hygijena spažyvieckich praduktaŭ

**Bulba.** Bulba byvaje časta pryčynaju atručańnia, bo maje ŭ sabie asablivuju substancyju — *solaninu.* Znachodzicca henaja atruta ŭ rastkach, łupinie i maładoj bulbie. Atručańnie bulbaju bačym najčaściej viasnoju i na pačatku leta, kali najčaściej biarecca maładaja bulba.

Paračy bulbu, nia možna nakryvać jaje *zachutka nakryŭkaju,* inakš astajecca ŭ joj ŭsia atruta. Taksama i kožnaja jaryna, kali jaje nakryć zachutka, budzie niasmašnaju.

Nadta staruju bulbu, što paśpieła ŭžo praraści, pierad tym, jak brać da jady, treba dobra ačyścić ad usich rastkoŭ. Nie ačyščanaja moža być škodnaja na‘t žyviole. Žyvioła, jakaja atrucicca solaninaju, nia maje achvoty da ježy, staić sumnaja, paviesiŭšy hałavu ŭniz, z sumnymi vačyma, ledź trymajecca na nahach, a traplajecca, što i zdychaje ad paraližu serca.

Chočučy mieć peŭnaść, što bulba nie paškodzić žyviole, treba jaje ačyścić ad rastkoŭ, sparyć u vadzie, i vadu tuju vylić zusim. Rastki najlepš spalić, ci zakapać hłybaka ŭ ziamli. Kažam „zakapać“, kab niedzie vypadkova kury ci inšyja ptuški nia złasavali i nie atrucilisia.

**Hryby i atručańnie imi.** Hryby jaduć ludzi achvotna, bo šmašnyja. Ad pary da pary čuvać adnak, što niechta imi atruciŭsia. Najčaściej atručvajucca ludzi, što mała viedajuć, jak adroźnić dobryja hryby ad błahich. Zdarajecca heta najčaściej z tymi hościami, što tolki ŭletku łučajuć na viosku. Adnak niešta takoje moža nasudošyć (trapicca, spatkać) kožnaha, chto nia zusim razvažna nabraŭ usiaho, što kidałasia ŭ vočy...

Atručańnie hrybami prajaŭlajecca bolami ŭ žyvacie, vanitami, volnaściu; čałaviek atručany dychaje słaba, serca bjecca taksama vielmi słaba, u rocie sucha, vialikaja smaha, vočy chavajucca hłybaka, tvar pad kaniec robicca sinim, prychodziać kan-

# Biełarusy i Ukraincy

Pad hetkim nazovam „Chryścijanskaja Dumka" ŭ № 15 z 20 h. m. źmieščaje vielmi aktualny artykuł, jaki nižej dasłoŭna pieradrukoŭvajem, bo cikavy jon nia tolki dla ludziej starejšych, ale i dla maładych, katoryja musiać tak-ža sačyć za žyćciom i padziejami. Voś-ža „Chr. D." piša:

„Apošnim časam miž Biełarusami i Ukraincami ŭ Rečypaspalitaj Polskaj pierabieh čorny kot. Prynamsi tak mnohim zdajecca.

U ukrainskim nacyjanalistyčnym miesiačniku „Вістник" (za miesiac krasavik) niejki Pilipčuk napisaŭ artykuł, jaki źnievažaje najbolšaha biełaruskaha paeta Janku Kupału, a razam i ŭvieś biełaruski narod.

Paśla hetaha, jak-by ŭ adkaz na vystupleńnie ukrainskaha Pilipčuka, u vadnym biełaruskim tak-ža „nacyjanalistyčnym" palityčnym miesiačniku („Беларускім Фронце" № 5, 5.V.38 — *pajaśnieńnie naša)* ŭ ustupnym artykule vystupiŭ tak-ža prociŭ usiaho ukrainskaha narodu biełaruski „Pilipčuk". Sutnaść hetaha biełaruskaha vystupleńnia, jak jaho zrazumieła biełaruskaje hramadzianstva, hetkaja:

— Ukraincy majuć pretensii da biełaruskaha Paleśsia, Bielščyny, a navat i Biełastoččyny. Voś-ža treba, kab Biełarusy stvaryli svoj silny palityčny centr u Połacku, jaki-by moh prociŭstavicca zaborčaści Ukraincaŭ. Stvareńnie-ž henaha centru zaleža ad Maskvy i Varšavy. —

Abodva hetyja vystupleńni, jak ukrainskaje, tak i biełaruskaje, stryvožyli ukrainskuju i biełaruskuju hramadzkuju dumku. Tymbolš, što jany prypali na čas duža ciažkoha pałažeńnia i biełarusaŭ i ukraincaŭ i što vystupleńnie biełaruskaha „Pilipčuka" harmanizuje z planami polskaha sanacyjnaha jara—nacyjanalistyčnaha palityka Bobžanskaha. (Ciapier chiba „Bieł. Front" znajdzie sabie ideolohiju, bo dasiul choć tam vierchavodzić čałaviek, jaki maje bolš 50 hod, nijak sabie ideolohii, vypracavać ci znajści nia moh. — *dapiska naša*). Nastupiła ŭreščie vytłumačeńnie incydentu jak z boku ukrainskaha, tak i biełaruskaha i incydent vyjaśniŭsia i źlikvidavaŭsia.

Vyjaśniłasia, što hetkich vystupleńniaŭ ahulnaja hramadzkaja apinija nie pachvalaje i dalej staić na stanoviščy poŭnaj harmonii i brackaha sužyćcia biełaruskaha i ukrainskaha narodaŭ, jak u sučasnaści, tak i ŭ budučyni.

Ahulnaja biełaruskaja palityčnaja dumka ŭ spravie konkretyzacyi hetych suadnosinaŭ nastupnaja:

Akademickija terytoryjalna-etnahrafičnyja spory miž Biełarusami i Ukraincami pavinny uzajemna vyrašacca na padstavie poŭnaj spraviadlivaści, kab kožnaja z zainteresavanych staron ličyła svaim sapraŭdy svajo, a da hetaha možna dajści tolki darohaj biezstaronnych studyjaŭ i darohaj parazumieńnia, abapiortaha na objektyŭnych dadzienych i na ŭzajemnaj dobraj voli. Dychtuje heta nia tolki palityčny rozum, ale tak ža i chryścijanskaja etyka."

# Kancert Michała Zabejdy-Sumickaha

**8.V.38. ŭ Vilni**

Adna z vilenskich hazet pišučy ab kancercie słaŭnaha našaha mastaka M.Zabejdy-Sumickaha miž inšym hetak kazała: vystupleńni Zabejdy-Sumickaha dla biełarusaŭ heta śviata.—.I sapraŭdy tak jość. Bo ci-ž možna inakš nazvać toj čas, kali biełaruskaja zahnanaja mužyckaja pieśnia ŭ vusnach svajho mastaka apyniajecca na tej-ža samaj vyšyni, što i pieśni inšych narodaŭ słaŭnych na ŭvieś śviet svajej muzyčnaj kulturaj? Ci-ž inakš možna nazvać toj čas, kali słuchajučy svajej pieśni ŭ vysaka mastackim vykanańni, duša biełarusa adpačyvaje, nabiraje novaje lubovi da svaje biełaruskaje kultury i ŭznosicca na vyšyni, z jakich sumnaje ciažkaje našaje žyćcio stanovicca bolš radasnym, viesialejšym... — Dyk i nia dziva, što na kancert M. Zabejdy-Sumickaha, jaki adbyŭsia 8.V. sioleta ŭ Vilni, u vialikaj zali b. Kanservatoryi sabrałasia mnostva ludziej. Pryjšli siudy nia tolki biełarusy, ale palaki, litoŭcy, žydy, rasiejcy. Pieśnia, mastactva ŭsich łučyć. Kožny rad adpačyć dušoj, adarvacca choć na mih ad štodziennych chłopataŭ. Mastak, byccam čujučy heta, svoj talent hetym razam pakazaŭ jašče hłybiej, čarujučy prysutnych svaim miłahučnym liryčnym tenaram.

Pieralivalisia tony pieśniaŭ italijanskich, niamieckich, polskich, a zakončvali ŭsio, dapaŭniali narodnyja pieśni biełaruskija. Udziačnyja słuchačy vynaharadžali ma-

---

vulsii i kali nie adratavać, dyk atručany moža pamierci.

Kali jość na miescy lekar, dyk klikać jaho, kab jon chutčej prapałaskaŭ straŭnik. Kali lekara na miescy niama, dyk ratavać samym, vyklikajučy ŭ zachvareŭšaha *vanity*. Paśla vanitaŭ dać rycyny na *ačyščeńnie* kišok.

Dzieła taho, što serca mahło abniadužać, treba rupicca ab jom, dajučy kanjaku; kali niama pad rukami kanjaku, dyk prynamsia mocnaje harełki. Adnačasna davać pić cieraz kožnych niekalki minu taŭ raščyny *taniny* (4 hramy na šklanku vady) — łyžku na raz.

**Miasa.** Toj, chto viedaje štodziennyja žyćciovyja ŭmovy biełaruskaha sielanina, toj viedaje, što našaja vioska jeść miasa zusim mała. Jašče žyvuć pradstaŭniki taho pakaleńnia, jakoje miasam tolki razhaŭlałasia, łasavała ŭ kłusty čaćvier u miasaje dzie dy pasiłkavałasia pry kaśbie. Chatni abrachunak (biudžet) byŭ taki, što kurycu kuplaŭ małeńki handlar, aviečku krychu bolšy, ciałušku jašče bolšy. Dziakuj Bohu, kali ŭ chacie na ŭvieś hod kałoli adnaho paršuka i heta było ŭžo na ŭsie ŭračystaści. Pry takich umovach nichto nia moh raźjesca miasam Našaja vioska amal nie paŭsiudna była prykładnymi vehetaryjancami (ludzi, jakija nie jaduć miasa).

Było tutaka šmat dobraha, a bolš jašče błahoha.

Dobraje, praŭda, tolki adno, što nia jeli za šmat miasa. Navuka i siańnia kaža, što za šmat miasa škodzić zdaroŭju. Hlań, u nas na vioscy adzin u adnaho chudaščavy, žyvie doŭha, chacia narod i drobny. A što-ž błahoha? A błahoha šmat. Sielanin pracuje ciažka. Dobry rabotnik, jak dobry koń, ci kožnaja niažyvaja mašyna, patrabuje ježy. I treba, kab ježa była adpaviednaja što da *kolkaści* i *jakaści*. Toj, chto źješć kusok kłustaha miasa z kryškaju chleba, budzie sytniejšy za inšaha, što źjeŭ dźvie vialikija łusty chleba suchoha.

A ŭ nas žyviołu na ŭboj zabirali handlary, kury, masła, jajki jšli ŭ kramu za sol, hazu ci jašče za niešta, i zaŭsiody peŭnaju stravaju była bulba, užo mienš peŭnaju chleb; da chleba i bulby ŭletku małako, a inšyja prydatki zusim niapeŭnyja. Tutaka

staka burnymi vopleskami, biełarusy-ž uručyli vialiki košyk žyvych krasak, ubrany narodnymi tkaninami.

Končyŭsia kancert. Publika, zamučyŭšy bisami mastaka, pavoli razychodziłasia. Kala raździavalni staŭpatvareńnie. Nijak nia možna dabracca da svaich poltaŭ. Vobak mianie stajaŭ znajomy dochtar medyk, siańnia słaŭny na ŭsiu Vilniu; čakajučy na palto, dzialiŭsia svaimi ŭražańniami.

Dziŭnaja — kaža — reč. Ja na kancercie Zabejdy ŭžo treci raz. Inšaha artysta słuchaješ i niejak jon byccam „pryjadajecca", stanovicca budnim, a tut z pryjemnaściu słuchaješ i kožny raz znachodziš nieŝta novaje i pryhožaje i vychodziš z kancertu z poŭnym zadavaleńniem.

U hetych žyvych, biespasiarednich uražańniach i zaŭvahach vyražaŭ pavažany dochtar usio mastactva. Tak, pryjadajucca, abrydajuć nam roznyja „šlagiery" — pustaja tandeta, ale nikoli nie abrydnuć tvory klasyčnyja, nikoli nie abrydnie klasyčnaje mastackaje vykanańnie! Tak, jak u abrazoch vialikich mastakoŭ-maleraŭ znachodzim kožny raz nieŝta novaje, pryhožaje, što pryciahvaje našy vočy, tak u vialikim mastackim vykanańni pieśniaŭ M. Zabejdy-Sumickaha čujem kožny raz novyja prajavy krasy, jakija nas pryciahvajuć i łaščać našy vušy, dušu i serca, dajučy vialikaje duchovaje zadavaleńnie. U hetymža prajaŭlajecca vielič Michała Zabejdy-Sumickaha, jak mastaka pieśni!..

J. N.

## Jak i kali zhaśnie miesiac

Anhielski astranom Džems Džins dakazvaje, što miesiac kaliś razvalicca na drobnyja kavałki i źniknie z asiarodździa niabiesnaha śviatła. Hetaja katastrofa miesiaca zbudziecca až za niekalki miljonaŭ hadoŭ, dyk sučasnaje pakaleńnie biadavać pa miesiacu nia maje patreby.

Viedajem, što miesiac kružyć navokał ziamli. Siła pryciahańnia (hravitacii) miesiaca spryčyniaje prypłyvy i adpłyvy mora na ziamli, a hetyja adpłyvy i prypłyvy prytrymlivajuć abarot ziamli i nia značna ŭpłyvajuć na ruch miesiaca: strymlivajuć i zvalniajuć abarot miesiaca navokał ziamli.

Z hetaj pryčyny dzień na miesiacy kožny hod pabolšvajecca na niejkuju čaść sekundy. Ciapier dzień na miesiacy tryvaje dva tydni. Tady na miesiacy byvaje strašnaja śpiakota. Noč tryvaje taksama 2 tydni i ŭnočy tam byvajuć takija vialikija marazy, jakich na ziamli niama nikoli.

Dziela taho, što miesiac budzie pavaračvacca štoraz valniej, dyk za miljony hadoŭ miesiac i ziamla buduć krucicca adnolkava skora. Tady miesiac budzie śviacić kožnuju noč, ale ludzi buduć jaho vidzieć tolki z adnaje ziamielnaje paŭkuli, a z druhoj paŭkuli miesiaca vidać nia budzie.

Dziejańnie prypłyvu i adpłyvu mora budzie dalej zvalniać kruhavarot ziamli, a miesiac budzie pavoli prybližacca da ziamli. Ciapier miasiac znachodzicca za 386.160 klm. ad ziamli, a za miljony hadoŭ prybližycca i budzie znachodzicca tolki za 19 tysiač kilametraŭ.

Tady z ziamli miesiac budzie vyhladać u 30 razoŭ bolšy, čymsia vyhladaje ciapier i budzie śviacić u 1.000 razoŭ jaśniej, jak ciapier.

Pryciahańnie ziamli budzie takoje silnaje, što miesiac razarviecca na kavałki, jakija pazvalvajucca na ziamlu. Na ziamli paŭstanuć pažary, ziemlatrasieńnie, mora vyjdzie z bierahoŭ i zalije častku sušy.

Z astatkaŭ miesiaca ŭtvorycca navokał ziamli taki abruč, jaki maje Saturn. Tady ludzi, što astanucca na ziamli paśla katastrofy miesiaca, buduć bačyć zaŭsiody nad ziamloj vializarnuju viasiołku śviatła (raduha). Hetaja viasiołka časami budzie zasłaniać sonca i tady ludzi buduć vidzieć zamiest sonca, siarebrany pojas. Ale mahčyma, što tady ŭžo na ziamli zusim nia budzie ludziej, a ziamla budzie skavana śmiarotnym lodam i budzie takoj pustyniaj, jakoj ciapier jość miesiac.

**Prypaminajem, što ŭ niadzielu 12-ha červienia siol. adbudziecca**

**BIEŁARUSKAJA PILIHRYMKA ŭ Kalvaryju.**

**Zborka 12.VI a hadz. 7-maj rana ŭ kaściele śv. Mikałaja ŭ Vilni.**

Ab miescy načlehu infarmuje redakcyja „Chr. Dumki" ŭ Vilni, Zavalnaja vul. № 1—2.

---

ŭsieńka zaležnaje jość ad nadta roznajakich miarkavańniaŭ i abstavinaŭ.

Biazumoŭna, heta źjavišča nienaturalnaje, nie zdarovaje! Jano pakazvaje na chvorasć *haspadarčaha ładu* našaje vioski. Nie chaču baranić miasa, a chaču tolki skazać, što chočučy dobra pracavać fizyčna, treba sytna jeści i ŭ našym klimacie biez miasa dobraje kuchni nie *naładzim*. Mo' vajna navučyła ludziej, jak treba lepš žyć, inšyja mo' paźniej navučacca, i tym chaj buduć karysnymi ŭvahi ahulnyja ab miasie.

Miasa — ježa smašnaja. Nia nadta dziela hetaha i radziać davać miasa małym dzieciam da 4—5 hadoŭ. Dzicia časta pasmakavaŭšy miasa, nia choča jeści ničoha inšaha. Smak miasa nadta roznajaki, niezaležna ad pryhataŭleńnia ŭ kuchni. Paasobnyja žyvioły majuć svoj rozny smak, prykładam śvinina, baranina, cialacina, kuracina i h. d. Smak zaležyć ad płoci, ad kormu, ad vieku, ad zdaroŭja žyvioły i h. d. Viadoma, što miasa ad staroj žyvioły, suchoje, ćviordaje, žyłavataje, niasmašnaje i adnačasna mienš karysnaje. U miasie moža być niebiaśpieka *chvaroby*. U pieršuju čarhu maju tutaka naŭviecie śvininu z mahčymaściu prysutnaści ŭ joj *čužajedaŭ* (soliter). Horš jašče, kali heta nia budzie soliter, a *trychina*.

Chočučy zabiaśpiečycca ad apošniaje mahčymaści, treba miasa dobra i doŭha varyć ci piačy. Niedapiečanaje miasa časta byvaje krynicaju niaščaściaŭ doŭhich hadoŭ. Lahčej jašče ŭjavić kožnamu niebiaśpieku zaražeńnia *tuberkulozam* (suchotami), što miž inšym byvaje ŭ tych, chto jeść syroje ci napałovu syroje miasa.

Pobač z soliterami i tuberkulozam, mahčymyja šmat jakija chvaroby. Hledziačy z boku praktyčnaha, niama patreby nad imi spyniacca, bo-ž nichto razumny nia budzie jeści miasa chvoraj žyvioły. Chvaroby henyja jasnyja: pačynajucca vostra, jak prykładam *paratyfus, mor (čuma) rahataje žyvioły, zakažeńnie kryvi, aktinomykoza* i h. d. Kali na miescy niama veterynarnaha doktara, lepš zakapać trup hłybaka ŭ ziamlu, kab nie raznosić zarazy.

*(d. b.).*

# ŠLACH BIEŁARUSKAHA STUDENTA

DADATAK DA „ŠLACHU MOŁADZI“.

*Redahuje Redakcyjnaja Kalehija: J. Jaroška, V. Jermałkovič, Č. Najdziuk, St. Naruševič i U. Pańko.*

№ 1. Vilnia, Maj 1938 h. Hod I.

## *АД РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ*

Беларускія студэнты праз доўгі час выдавалі свой студэнцкі орган пад назовам „Студэнцкая Думка“, а так-жа пры „Беларускай Крыніцы“ „Студэнцкую Трыбуну“. Але вось ужо прайшло многа часу, як гэтых часапісаў ня стала. Ня гледзячы на найшчырэйшыя намеры, ўзнавіць іх цяпер няма магчымасьцяў. І гэта — падчырківаем — бяз віны студэнтаў.

Далей аставацца бяз „голасу“ беларускі студэнт ня можа. Ён мусіць мецъ свой орган, на бачынах якога мог-бы выказаць свае думкі, абгаварваць свае студэнцкія справы, а так-жа і патрэбы беларускага народу. Ня трэба забывацца, што мы, беларускія студэнты, мусім пакрысе браць у свае рукі нашу агульна-нацыянальную беларускую справу. Брацца-ж за гэта, ня маючы трыбуны, якая служыла-б нам ня толькі для абмену думак, але разам была-б і свайго роду злучвом гэтай маладой беларускай думкі, ня можна.

Маючы гэта на мэце, мы, група беларускіх студэнтаў, увайшлі ў паразуменьне з рэдактарамі і выдаўцамі блізкага нам часапісу „Шлях Моладзі“ і пры яго помачы выдаём першы нумар „ШЛЯХУ БЕЛАРУСКАГА СТУДЭНТА“, як дадатку да „Шляху Моладзі“.

„Шлях Беларускага Студэнта“ будзе трыбунай, з якой беларускі студэнт зможа выказацца і праводзіць ідэйную барацьбу за беларускія нацыянальныя, сацыяльныя і культурныя ідэалы.

Надта магчыма, што ў гэтым акадэміцкім годзе гэты нумар „Шляху Беларускага Студэнта“ будзе першым і апошнім, бо цяпер для студэнтаў гарачы час, час экзамінаў і няма часу на іншыя справы. Але важны пачатак. Вось-жа пачынаем, цьвёрда верачы, што ўвосень, з пачаткам новага акадэміцкага году, наш студэнцкі дадатак пры „Шляху Моладзі“ будзе выходзіць стала раз на месяц і ажыўляць студэнцкую працу.

„Шлях Беларускага Студэнта“ будзе зьмяшчаць матарыялы, якія будуць ня толькі адбіваць жыцьцё беларускага студэнта, але, як сказана вышэй, будуць так-жа каваць новыя думкі, тварыць беларускую нацыянальную ідэолёгію і пашыраць яе сярод беларускага студэнцтва, як маладых кадраў беларускага нацыянальна-адраджэнскага руху.

Рэдакцыйная Калегія запрашае Калежанак і Калегаў загадзя прысылаць матарыялы ў „Шлях Беларускага Студэнта“, а так-жа і свае ўвагі і пажаданьні.

*Рэдакцыйная Калегія «Ш.Б.С.»*

Вільня, 20.V.1938.

## Ideovy voblik biełaruskaha studenctva

Biełaruskim studentam staviać časam zakid, što jany mała cikaviacca hramadzkimi prablemami i nie pracujuć nad biełaruskaj nacyjanalnaj ideolohijaj. Taki zakid, mnie zdajecca, niasłušny. Praŭda, jość u biełaruskim studenctvie adzinki, da jakich hety zakid bolšmienš možna dastasavać, ale ahułam biaručy biełaruski student žyva reahuje na ŭsiakija duchovyja prablemy, a asabliva na roznyja sučasnyja kirunki hramadzkija. Dumki svaje apiraju ja, jak siabra Biełaruskaha Studenckaha Sajuzu, na svaich asabistych spaściarohach z žyćcia biełaruskaha studenctva.

Pradusim Biełaruski Studencki Sajuz vykazvaje vialikuju mieru hramadzkaj daśpiełaści i taktoŭnaści — jon praz uvieś čas svajho isnavańnia, heta znača praz 17-cać hadoŭ, adnosna da starejšaha biełaruskaha hramadzianstva byŭ zaŭsiody neŭtralny, apalityčny. Paasobnyja siabry Sajuzu, jasna, mieli i majuć svaje takija ci inšyja pahlady i sympatyi, ale Sujuz jak arhanizacyja jość apalityčnym. U abaronie hetaj apalityčnaści ŭ svaim časie Sajuz praviоŭ pieramožnuju vialikuju baraćbu z vonkavymi dziejnikami, katoryja chacieli jaho ŭciahnuć u palityčnuju rabotu, hurtujučy pry hetym kala siabie zdarovy biełaruski element.

Biełaruskaje studenctva, arhanizavanaje ŭ toj-ža Sajuz, zaŭsiody žyva reahuje na roznyja hramadzkija sučasnyja jamu kirunki, asabliva na tyja, jakija majuć ci mohuć mieć jakija niebudź adnosiny da biełaruskaha narodu.

Biełaruski student žyva cikavicca sacyjalnaj prablemaj svajho biełaruskaha narodu, dobra sabie zdajučy spravu z taho, što ŭ hetaj halinie treba pravieści samyja radykalnyja, ale zhodnyja z nacyjanalnaj dušoj narodu i z jaho patrebami, reformy. Toje-ž samaje treba skazać i ab patrebach biełaruskaha narodu ŭ jaho žyćci

# PIOTR KREČEŬSKI JAK SYMBAL BIEŁARUSKAHA SUMLEŃNIA

*(Z referatu čytanaha ŭ B.S.S. 26.III.1938)*

Historyja biełaruskaha adradžeńnia zapisała na svaich bačynach užo cełу rad idejnych baraćbitoŭ za lepšuju dolu Biełaruskaha Narodu. Siarod ich załatymi litarami ŭpisałasia tak-ža imia Staršyni Rady Biełaruskaj Narod-Respubliki — Piotry Krečeŭskaha, ad śmierci jakoha sioleta minuła 10 hadoŭ.

Piotra Krečeŭski, syn dziaka sielskaha prychodu Kobrynskaha pav., Horadzienskaj hub., radziŭsia 7-ha žniŭnia 1879 h. Vučyŭsia jon u Vilenskaj Duchoŭnaj Pravasłaŭnaj Seminaryi, jakuju skončyŭ ŭ 1902 h. Pracavaŭ P. K. praz niejki čas jak narodny vučyciel, a paśla byŭ u Vilenskim dziaržaŭnym banku inspektaram drobnaha kredytu. U 1914 h. byŭ paklikany da vajskovaje służby i naznačany vajennym čynoŭnikam — dziełavodam adnaho z vajskova-veterynarnych łazaretaŭ. Revalucyja 1917 h. zastała Piatra Krečeŭskaha na hetaj pasadzie ŭ Barysavie, Mienskaj hub. Z pieršych-ža dzion revalucyi P. Krečeŭski ŭ Barysavie byŭ vysunuty na kiraŭničyja revalucyjnyja stanoviščy i vybrany na staršyniu Barysaŭskaha Savietu sałdackich i rabotnickich deputataŭ.

Kali zachistałasia rasiejskaja carskaja turma narodaŭ i kali pierad Biełaruskim Narodam źjaviłasia mahčymaść samastojnaha vyrašeńnia svajho łosu, Krečeŭski ustupiŭ u pieršyja rady biełaruskaha revalucyjnaha ruchu i braŭ dziejny ŭdzieł u budaŭnictvie lepšaje doli svajmu narodu. Jon tady ŭžo byŭ staronnikam niezaležnaści i samastojnaści Biełaruskaha Narodu i idei hetaj astaŭsia viernym až da śmierci.

Na Usiebiełaruskim Kanhresie ŭ 1917 h. ŭ Miensku byŭ jon vybrany siabram Rady Kanhresu. 19 lutaha 1918 h. Krečeŭski ŭvajšoŭ u skład pieršaha biełaruskaha ŭradu, nazyvanaha Narodnym Sakrataryjatam, u jakim spaŭniaŭ funkcyi Dziaržaŭnaha Kantralora. Paśla byŭ staršynioj Handlovaj Pałaty Biełarusi, sakratarom Rady Biełaruskaj Narodnaj Respubliki, a 13.XII.1919 h. byŭ vybrany Staršynioj Rady Bieł. Narodnaj Respubliki i hetaje vysokaje i hanarovaje stanovišča zachavaŭ da svaje śmierci.

P. Krečeŭski, jak siabra Rady B.N.R., byŭ dziejnym učaśnikam vydańnia 2-ch ustaŭnych hramataŭ da narodaŭ Biełarusi i aktu abvieščańnia 25.III.1918 h. niezaležnaści Biełarusi. Jon pobač z inšymi pracavaŭ nad realizacyjaj hetaha aktu, za što paśla pieraśledavany vorahami musiŭ emihravać zahranicu. Spačatku prabyvaŭ jon u Koŭnie, paśla ŭ Berlinie, Ryzie i ŭreščie ŭ Prazie Češkaj. Rasčaravany histaryčnymi padziejami, nia zhubiŭ adnak Krečeŭski viery ŭ pieramohu Praŭdy. I čoč, jak piša ab im jahony namieśnik V. Zacharka („Bieł. Krynica“, 3.IV.1928): „Vorahi Biełarusi nia raz rabili prapazycyi P. Krečeŭskamu, adnak jon zaŭsiody adkidaŭ z pahardaj usio toje, što škodziła čystacie nacyjanalna-dziaržaŭnaj niezaležnaści Biełarusi i hanbiła jaho ŭłasnaje imia. Jon dobra viedaŭ, što hetyja prapazycyi robiacca tolki dziela taho, kab vybić z jaho ruk biełaruski ściah...“ P. Krečeŭski nia zdradziŭ biełaruskaje niezaležnickaje idei, vytrymaŭ usie napory i napady. Piotra Krečeŭski heta sapraŭdy symbal biełaruskaha narodnaha sumleńnia.

Žyvučy na emihracyi, Krečeŭski nie pierastavaŭ pracavać na biełaruskaj adradženskaj nivie, ab čym śviedčyć, miž inšym, vydany ŭ 1926 h. u Prazie pad jahonaj redakcyjaj zbornik historyi, kultury i ekanomiki p. n. „Замежная Беларусь“, u jakim znachodzim niekalki cikavych artykułaŭ samoha P. Krečeŭskaha. Z Prahi P. Krečeŭski 20.V.1924 h. vysłaŭ u Lihu Narodaŭ memorandum, u jakim damahaŭsia naležnych Biełaruskamu Narodu pravoŭ.

Biełaruski piśmieńnik Kraŭcoŭ Makar, jaki praz niejki čas supolna pracavaŭ z P. Krečeŭskim, u svaich uspaminach ab im („Šlach Moładzi“ № 3 z 1937 h.) piša, što byŭ heta cichi i skromny pracaŭnik, u jakim adnak taiłasia vyraznaja, ćviordaja vola iści da kanca ciarnistym šlacham biełaruskaha dziejača pakutnika. Duša jaho hareła niejkaju romantyčna dziavočaju nadziejaj. Zaŭsiody adnolkavy, kamienna-spakojny, z viečna-łaskavym pahladam rašučych vačej, trymaŭsia z niejkaju patryjaršaju pavahaju. Nikoli na ništo nia žaliŭsia. Byŭ ščyrym demakratam. Što hłyboka pradumaŭ, taho trymaŭsia da kanca, u što vieryŭ, toje baraniŭ z sakavitaściu i spakojnaściu...

Acaniajučy Piotru Krečeŭskaha, jak vialikaha zasłužanaha biełaruskaha patryjota, z vialikim sumam i žalem treba adznačyć,što pamior jon na čužynie ŭ biednaści i adzinoctvie. „Skončyła — jak kaža dalej K. M. — svaju niaŭtomnuju pracu vialikaje biełaruskaje serca, pierapoŭnienaje luboŭju da svajho siarmiažnaha narodu... Pamior nożbit śvietazarnaje biełaruskaje idei...“ Ale pamiać ab im u narodzie budzie viečna...

Śvietłaja čystata sumleńnia i stojkaść Piotry Krečeŭskaha pavinna być prykładam biełaruskaj moładzi ŭ žyćci i pracy hramadzkaj na svajej biełaruskaj nivie...

„Naša niaščaście ŭ tym — piša P. Krečeŭski ŭ „Zamiežnaj Biełarusi,“ što na praciahu ŭsiej dziaržaŭnaj adradženskaj pracy na adpaviednych stanoviščach vykanaŭčaj ułady my bačyli mała sumlennych ludziej...“ Nad hetaj ciažkoj źjavaj hłybaka baleŭ dušoj P. K. da kanca svajho žyćcia, mocna pieražyvajučy niedachop stojkich idejnych ludziej. Voś-ža najvyšejšym abaviazkam biełaruskaje studenckaje moładzi pavinna być imknieńnie stvaryć kadry idejnych maładych zmaharoŭ, haloŭnym pryncypam jakich była-b praca dla dabra ahułu, dla dabra Biełaruskaha Narodu!..

*Časłaŭ Najdziuk.*

---

ścisła ekanamičnymi. Biełaruski student u hetaj spravie nia šukaje modnych uzoraŭ za hranicaj, ale apirajecca, jak skazana, na rodnaj biełaruskaj dušy i na patrebach biełaruskaha narodu.

Prablemu ŭreščie ahułam biełaruskaj nacyjanalnaj kultury biełaruski student raźviazvaje tak-ža, na moj pahlad, razumna i pastupova. Adkidajučy ŭzory savieckija i fašystaŭskija, biełaruski student, u svajej kulturnaj dla narodu pracy, apirajecca na biełaruskim nacyjanalnym elemencie:na movie narodu, na jaho historyi, na jaho patrebach sacyjalnych i ekanamičnych.

Da dadatnich prajavaŭ u biełaruskim studenctvie treba tak-ža zaličyć i jaho tolerancyjnaść da inšych narodaŭ, da ich pravoŭ i ich kultury. Dumaju, što heta sapraŭdy dobraja prajava, bo kali my majem niekamu admaŭlać toje, čaho sami chočam, dyk na jakoj padstavie budziem baranić našy ideały, kali niechta im budzie spraciŭlacca?

Hetak sprava vyhladaje z ideovaj staranoj biełaruskaha studenta. Słabiej pradstaŭlajecca starana arhanizacyjnaja. Tut šmat što možna našamu studenctvu zakinuć. Ale ab hetym druhim razam.

**Student Sajuźnik.**

# Z HISTORYI BIEŁARUSKAHA STUDENCKAHA RUCHU

Biełaruski studencki ruch maje svaju historyju, maje svaje pryhožyja tradycyi. Nia budziem tut daloka siahać u historyju. Voźmiem jaho reprezentantaŭ z druhoj pałaviny XIX st., — uspomnim imia słaŭnaha Kastusia Kalinoŭskaha, jaki na universyteckaj łaŭcy i śvieža pa skančeńni universytetu (ŭ Pieciarburzie) zajmaŭsia šyrokaj hramadzkaj dziejnaściaj i jakoha pahanaj pamiaci Muraŭjoŭ paviesiŭ na Łukiškach za jahonuju paŭstanckuju dziejnaść ŭ 1864 hodzie.—Uspomnim tut imia Ihnata Hryniavieckaha, biełarusa-studenta, nia mienš słaŭnaha ad Kastusia Kalinoŭskaha. Nia chto inšy, jak jon spasiarod revalucyjaneraŭ-narodavolcaŭ kinuŭ śmiarotnuju bombu ŭ cara Aleksandra II u 1881 h. 1.III, ad jakoj źhinuŭ i sam. Uspomnim tut biełaruskaha paeta i piśmieńnika Adama Hurynoviča, studenta Technolohičnaha instytutu ŭ Piatrahradzie, jaki taksama pryjmaŭ aktyŭnaje i haračaje ŭčaście ŭ tahačasnym revalucyjnym ruchu i za što siadzieŭ u Pietrapaŭłaŭskaj krepaści. Uspomnim taksama Antona Lavickaha, biełaruskaha piśmieńnika (Jadvihina Š.), jaki budučy studentam maskoŭskaha universytetu ŭ kancy XIX stahodździa pryjmaŭ razam z inšymi studentami haračaje ŭčaście ŭ hramadzkim žyćci, u revalucyjnaj tahačasnaj rabocie, i jaki za heta apynuŭsia ŭ vastrozie na Butyrkach, dzie siedziačy razam z inšymi biełarusami-studentami zarhanizavaŭ patajny biełaruski studencki hurtok. Urešcie ŭspomnim ab tym, što ŭ kancy XIX st. siarod śviedamych studentaŭ biełarusaŭ paŭstała dumka zarhanizavać biełaruskuju nacyjanalnuju palityčnuju partyju. Siarod hetkich śviedamych biełarusaŭ studentaŭ, adyhraŭšych ad 1896 h. značnuju rolu ŭ biełaruskim studenckim i ahulna-hramadzkim žyćci, byŭ tady ciapierašni prafesar varšaŭskaj palitechniki Vacłaŭ Ivanoŭski. U časie ad 1896 h. da pačatku XX st. u Pieciarburzie isnavaŭ kružok biełarusaŭ studentaŭ, jaki choć tady nia mieŭ formy arhanizacyjnaj, faktyčna byŭ pačatkam Bieł. Sac. Hramady.*)

Heta 2-aja pałavina XIX stahodździa. Heta našyja pryhožyja histaryčnyja biełaruskija studenckija tradycyi. Ab hetym nikoli nia treba zabyvacca, havoračy ab biełaruskim studenckim ruchu!

A paźniej? XX stahodździe? Biełaruski studencki ruch vystupaje z bolšym razmacham i siłaj. Revalucyja 1905 hodu charakteryzujecca značnym u joj udziełam biełaruskich studentaŭ. Uspomnim tut choć-by imia piśmieńnicy Ciotki. — Biełaruskija studenty arhanizujucca ŭ svaje zhurtavańni, jasnaja reč, u tych universyteckich asiarodkach, dzie jany studjujuć. Uspomnim tut ab zasnavańni biełaruskaj studenckaj revalucyjnaj moładździu ŭ Pieciarburzie jašče ŭ 1902 h. arhanizacyi pad nazovam „Kruh biełaruskaj narodnaj praśviety“, jakaja zajmałasia raspaŭsiudžvańniem drukavanych zahranicaj biełaruskich drukaŭ, a tak-ža rabiła ŭžo pačatki biełaruskaha vydaviectva ŭ Rasiei.*)

Paŭstajuć biełaruskija studenckija hurtki i ŭ Maskvie i ŭ inšych universyteckich centrach Rasiei.

Tak było da suśvietnaj vajny i revalucyi.

A paśla? Biełaruski studencki ruch uzmacniajecca, tak pavodle liku studentaŭ, jak i z hledzišča arhanizacyjnaha. Biełaruski studencki ruch stajecca masavym. U stalicy Savieckaj Biełarusi Miensku, dzie paŭstała niekalki vyšejšych škołaŭ, i ŭ niekatorych asiarodkaah SSSR, asabliva hety ruch stajecca mocnym. Pavodle aficyjalnaj publikacyi „Культурное строительство СССР. 1930—34“, Москва, 1935 г.,**) lik *pryniatych biełarusaŭ* uvosieni 1934 h. pradstaŭlajecca tak:

A. Sajuznaja sietka: u Vuzy (vyšejšyja navučalnyja ŭstanovy) — 1.768 čałaviek ci 2,86 prac. ahulnaha liku studentaŭ; u technikumy — 2.543 čałaviek ci 2,44 prac. ahulnaha liku studentaŭ.

B. Respublikanskaja sietka (Savieckaja Biełaruś): u Vuzy—2.739, na ahulny lik 4.400 studentaŭ, u technikumy — 6.585, na ahulny lik 8.290 studentaŭ.

Pavodle tej-ža publikacyi na pačatku 1935 hodu. pa ŭsim SSSR (a značyć i ŭ Savieckaj Biełarusi) *naličana* Biełarusaŭ-studentaŭ: 14 tysiač u Vuzach (try pracenty ahulnaha liku słuchačoŭ hetych škołaŭ pa ŭsim SSSR), 20,2 tysiač u technikumach (3,2 prac. ahulnaha liku słuchačoŭ u hetych škołach pa ŭsim SSSR).

Abo voźmiem tolki Maskvu, hdzie biełaruskija studenckija arhanizacyi pačali zasnoŭvacca, na pryncypie „ziemlactvaŭ“ jašče ŭ 1921 hodzie, dziakujučy starańniam pradstaŭnikoŭ BSSR M. Marozu i S. Bułatu. Pavodle studeckaha časapisu „Zmahańnie,“ orhanu Centralnaha Biuro Biełaruskich Studenckich ziemlactvaŭ u Maskvie, (sšytok pieršy, Miensk 1924), pry isnujučych tady 22 vyšejšych škołach u Maskvie, pad kaniec 1922 h. zasnavany biełaruskija ziemlactvy. Hetyja ziemlactvy naličali, z ahulnaha liku 756 siabroŭ studentaŭ, 447 biełarusaŭ.

Biełaruskija studenty ŭ Polšč‌y znachodziacca amal uva ŭsich universyteckich asiarodkach— Vilnia, Varšava, Paznań, Krakaŭ, Lvoŭ, Lublin. Najbolšy lik ich, zrazumiełaja reč, u Vilni i Varšavie—heta hałoŭnyja centry biełaruskaha studenckaha žyćcia.

U Vilni ŭ 1920 h. zarhanizavaŭsia Biełaruski Studencki Sajuz. Isnuje jon da sianńniašniaha dnia i naličaje bolš paŭsotni siabroŭ. Siudy nie ŭvachodziać mnohija studenty biełarusy vilenskaj škoły palityčnych navuk, jakaja isnuje pry „Instytucie Badań Europy Wschodniej“. Bieł. Stud. S. nie achaplaje ŭsich studentaŭ biełarusaŭ vil.-universytetu. U Biełaruski Studencki Sajuz nie naležać niekalki dziesiatkaŭ studentaŭ Biełarusaŭ h. zv. „dzikunoŭ,“ jakija nie zapisyvajucca ŭ svaju arhanizacyju z matyvaŭ pryvatna-asabistych (karjera, nadzieja na „pasadki“ i t. d.).

Havoračy ab biełaruskich studentach i ich arhanizacyjach, nia možna abminuć i biełaruskaj studenckaj emihracyi, a tak-ža biełaruskaj studenckaj moładzi ŭ Litvie i Łatvii. Biełaruskaja moładź u pošukach viedy apynułasia ci to z prymusu (u siłu palityčnych abstavinaŭ u Krai) ci dobrachvotna na čužynie. Jana raśkidana pa ŭsim śviecie. My viedajem, što ŭ svaim časie vytvaryŭsia davoli pavažny asiarodak biełaruskaha studenckaha žyćcia ŭ Prazie Českaj, dzie šmat apynułasia i biełaruskaj moładzi z Polšč‌y (tut nie mahła ustupić dziela roznych pryčyn u vyšejšyja škoły) i z Łat-

*) hl. Ad. Stankievič — „Da historyi biełaruskaha palityčnaha vyzvaleńnia“. Vilnia, 1935 h., bač. 69.

*) hl. tam-ža, bač. 69—70.

**) Apracavanaja na padstavie niapoŭnych dadzienych.

# Karotki ahlad dziejnaści Biełaruskaha Studenskaha Sajuzu
## za apošni hod

Dziejnaść Biełaruskaha Studenckaha Sajuzu ŭ Vilni za apošni 1937—38 hod prajaŭlałasia pieradusim u ładžańni:

a) imprezaŭ šyrejšych publičnaha charaktaru;

b) publičnych lekcyjaŭ, čytanych prelehientami iz starejšaha hramadzianstva;

c) referataŭ, čytanych siabrami B.S.S.;

d) dyskusyjnych viečaroŭ, na jakich abhavarvalisia aktualnyja prablemy z biełaruskaha žyćcia;

e) praca na pravincyi.

Hetkaja dziejnaść BSS u chronolohičnym paradku pradstaŭlajecca nastupna:

a) 1) 16.V.37 h. u zali Śniadeckich vil. universytetu „Kancert biełaruskaj pieśni", z udziełam słaŭnaha salistaha M. Zabejdy-Sumickaha i Biełaruskaha Choru R. Šyrmy;

2) 16.X.37 h. — „Inaŭhuracyjny viečar", z referatam kal. M. Ščorsa;

3) 12.XII.37 h. u zali Śniadeckich USB — Kancert Michała Zabejdy-Sumickaha i Biełaruskaha Choru hr. R. Šyrmy;

4) 4.III.38 h. u tej-ža zali — Kancert Ahiehieńni Čarniaŭskaj-Orsy i Biełaruskaha Choru hr. R. Šyrmy.

b) 1) 11.XII.37 h. inž. S. Busieł čytaŭ referat ab Słuckim paŭstańni;

2) 19.II.38 h. ks. S. Hlakoŭski čytaŭ referat na temu: „Čałaviek jak žyvioła relihijnaja, razumnaja i hramadzkaja";

3) 7.V.38 h. inž. A. Klimovič—referat na temu: „Žyćcio i dziejnaść dr. T. Hryba";

4) 14.V.38 h. mhr. J. Šutovič — referat na temu: „Biełaruskaja savieckaja litaratura".

5) 12.III.38 h. adbyŭsia viečar pryśviačany narodnym kazkam, u časie jakoha vystupali dr. J. Stankievič i Maksim Tank.

c) 1) 21.I.38 h. ładžany viečar u česć Kastusia Kalinoŭskaha z pryčyny 100-ch ŭhodkaŭ naradzinaŭ z referatam kal. Vinc. Skłuboŭskaha;

2) 26.III.38 h. ładžany viečar, pryśviačany pamiaci Piotry Krečeŭskaha z nahody 10-ch uhodkaŭ jahonaje śmierci. U časie hetaha viečaru referat čytaŭ kal. Č Najdziuk, a inž. A. Klimovič dzialiŭsia z prysutnymi ŭspaminami ab P. Krečeŭskim.

d) 1) 2.IV.37 h. kal. V. Skłuboŭski pračytaŭ referat na temu: „Idealistyčny i matarjalistyčny śvietapahlad";

2) 17.IV.37 h.—dyskusyjny viečar na temu prablemaŭ, zakranutych u časapisie „25 sakavik", referavaŭ kal. K. Šeška;

3) 22.XI.37 h. — dyskusija nad referatam kal. M. Ščorsa, čytanym padčas Inaŭhuracyi. Koreferat čytaŭ kal. K. Šeška;

4) 11.IX 37 h. — referat kal. A. Zasima na temu: „Akt 25 sakavika ŭ histaryčnym aśviatleńni";

5) 4.XII.37 h. — dyskusyjny referat kal. M. Minkieviča na temu: „Antysemityzm i žydoŭskija łaŭki".

6) 16.III.38 h. była naładžana dyskusija z referatam kal. A. Zasima na temu: „Biełaruski student na vioscy".

e) Zhodna z adpaviednymi punktami svajho statutu, ab kulturna-aśvietnaj pracy siarod biełaruskaha narodu, — Urad Biełaruskaha Studenckaha Sajuzu, sa zhodaj Rektara universytetu, rabiŭ starańni, kab dastać dazvoły na čytańnie siabrami Sajuzu referataŭ na pravincyi. Administracyjnyja ŭłady stanuli adnak na pieraškodzie realizacyi hetaj pracy.

Tavaryskaje žyćcio vyražałasia ŭ ładžańni: viečaryny z Ukrainskim Studenckim Sajuzam, abznajamlajučaj harbatki dla novaustupajučych siabraŭ, troch tavaryskich subotnikaŭ, subotnika „Čyrvonaha jaječka", humarystyčnaha viečaru „Andrejki-Mikołki", viečaryny 3-ch Stud. Sajuzaŭ — Biełaruskaha, Litoŭskaha i Ukrainskaha.

22.V.38 h. Biełaruski Studencki Sajuz ładziŭ siabroŭskuju ekskursiju ŭ Verki pad Vilniaj, u jakoj brali ŭdzieł sioletnija absolventy Vilenskaje Biełaruskaje Himnazii.

Hetak u skaročanym vyhladzie pradstalajecca dziejnaść Biełaruskaha Studenckaha Sajuzu ŭ Vilni ŭ aznačanym časie. Na pracu ŭ šyrejšym maštabie nie pazvalali BSS skupyja finansavyja srodki, jakija składalisia pieravažna z miesiačnych siabroŭskich składak, i tyja dobra znanyja ŭsim varunki, u jakich siańnia žyvie Biełaruski Narod.

*V. Jermałkovič.*

---

vii. U 1926 h. tam utvorana biełaruskaja studenckaja arhanizacyja—Abjednańnie Biełaruskich Studenckich Arhanizacyjaŭ (u skarocie ABSA); isnuje jašče da siańnia; siańnia vielmi asłablenaja ŭ svaim ličbovym składzie z pryčyny vyjezdu z Prahi—pa skančeńni vyšejšych škołaŭ — mnohich studentaŭ: u peryjadzie ad 1922 h. da 1928 h. ŭ Prazie studenty biełarusy ličylisia sotniami, ciapier adzinkami. Nam viedama tak-ža, što niekatoryja Biełarusy vučacca ŭ Berlinie, Miunchenie, Paryžy, Lježy, Brukseli, Rymie, Sofii i ŭ inšych universyteckich miestach Zachodniaj Eŭropy. Nam viedama, što ŭ Litvie pry Kovienskim universytecie isnuje ad niekalki hod biełaruskaja studenckaja arhanizacyja, a ŭ Łatvii — pry Ryskim universytecie — taksama jość studenty Biełarusy. (Niekalki hod tamu była tam sproba zarhanizavacca ŭ biełaruskuju studenckuju arhanizacyju „Alborutenika;" jak daviedyvajemsia, arhanizatary da apošniaha času nie apuskajuć ruk i dumajuć zrealizavać svajo pačynańnie).

Tak bolš-mienš pradstaŭlajecca ŭ karotkim ahladzie biełaruski studencki ruch u perspektyvie histaryčnaj ad II pałaviny XIX st. Patrabuje jon adpaviednych studyjaŭ tak z hledzišča ideovaha svajho nakiravańnia, jak i arhanizacyjnaha afarmleńnia — a tak-ža z hledzišča cyfrovaha vyražeńnia (statystyka!).

Janka Kurhan.

---

**UVAHA! 25.V.38 u 6-aj zali hał. budynku USB adbudziecca referat M. Tanka ab biel. narodnaj tvorčaści. 28.V tam-ža mgr. J. Šutovič pračytaje dalejšy ciah svajho referatu ab biełaruskaj savieckaj litaratury. Pač. a h.18.**

---

## Da viedama biel. studentaŭ

*Biełaruski Studencki Sajuz mieścicca: Vilnia, Zavalnaja vul. 1—2. Hadziny pryjma: ad 19 da 21.*

## Найменшыя гаспадарствы Эўропы

Найменшыя гаспадарствы (дзяржавы) ў Эўропе – гэта Монако і Люксэмбург.

**Монако** распаложана між цудоўна прыгожых гораў, каля Міжземнага мора. Гэтае гаспадарства займае прастору толькі паўтара квадратных кілямэтра і мае 24 тысячы асоб насельніцтва; зямля там гарыстая і малаўраджайная.

Монако мае вельмі многа цэнных памяткаў старога Рыму, дзеля гэтага туды кожны год шмат прыяжджае турыстаў з суседняй Францыі, Італіі, Нямеччыны і з цэлага сьвету. Монако фармальна зусім незалежнае гаспадарства, але эканамічна і палітычна моцна зьвязана з Францыяй. Сталіца Монако — места Монтэ-Карлё пад канец 19 стагодзьдзя сталася месцам ігры ў грошы, куды аматары рулеткі (спосаб ігры ў грошы) зьяжджаюцца з цэлага сьвету. Ад гэтага Монако ўзбагацела і людзі там жывуць у дастатку.

**Люксэмбург** займае 2.586($2^1/_2$) квадратных кілёмэтраў прастору і мае 271.280 асоб насельніцтва. Гэтае гаспадарства культурна стаіць вельмі высака: высака разьвітае школьніцтва, промысел і гандаль. Гаспадарственнае існаваньне Люксэмбурскага княства пачынаецца ў 963 годзе.

На паўдні Пірэнэяў, на прасторы 4 тысяч кілёмэтраў, распалoжана малое гаспадарства **Андора**, якая мае 6 тысяч жыхароў каталёнскага паходжаньня. Дасюль Андора мела толькі 10 жандараў і больш ніякага войска. Цяпер, калі ўваружаюцца ўсе гаспадарствы, дык і Андора пабольшыла сваю збройную сілу і мае 40 жандараў. У Андоры дасюль няма ніякіх пісаных законаў, а суды судзяць правам звычаёвым. Гаспадарствам кіруе ўрад з генэральнай радай, якая складаецца з 24 чалавек; андорскі ўрад у вялікай меры залежны ад Францыі. У сталіцы Андоры ёсьць толькі адзін гаспадарственны будынак, у якім месьціцца ўрад суд і жандармэрыя.

Сярод гораў Апэнінаў, на прасторы 64 квадратных кілямэтраў распалoжана гаспадарства **Сан Маріно**, якое што раз больш падпадае пад уладу Італіі. Сан Маріно ўжо ў 1.250 годзе было незалежнай краінай тамашніх горскіх плямёнаў, каторых заргапізаваў сьв. Марінус. У гэтае гаспадарства ў 1849 годзе ўцёк Гарібальдзі з астаткамі сваіх паўстанцаў, якіх даганяла аўстрыйскае войска. Цяпер Сан Маріно мае 13 тысяч жыхароў.

У Альпэйскіх горах знаходзіцца княства **Ліхтэнштайн**, якое распалoжана на 159 квадратных кілямэтрах і мае 11 тысяч жыхароў. Ліхтэнштайн здабыла незалежнасьць у 1140 годзе. Гэтая дзяржава гаспадарча злучана з Швайцарыяй.

Дасюль была йшчэ незалежнай і малая **Леріда**, якую нядаўна захапілі гішпанскія паўстанцы-фашысты. Леріда ўспамінаецца яшчэ ў часох прад нараджэньнем Хрыста, дзе ваяваў Цэзар. У Лерідзе ёсьць шмат памяткаў старых рымскіх сьвятыняў і палацаў.

Як бачым, малых гаспадарстваў ёсьць у Эўропе даволі многа, ёсьць аднак народы значна і значна большыя, якія не з свае ўласнае волі, нажаль, сваіх гаспадарстваў ня маюць. Калі аднак патрапілі стварыць свае незалежныя гаспадарствы народы малыя, то патрапяць гэта зрабіць у будучыні і народы большыя, каторых імкненьні і пляны да самастойнага жыцьця пакульшто ня збыліся...

*Чік.*

## Калі?

*Калі адыйдзе проч ад нас,*
*ўсё, што ёсьць паганае,*
*калі надыйдзе гэткі час,*
*што зьдзейсьніцца жадае?*

*Калі дасягнем мэты мы*
*і сонцам шлях адзначыма,*
*калі-ж, калі ўсё гэта мы*
*пачуем і пабачыма?*

*Аркадзь Заранка*

**Жалейка**

## СУДЗЬБА [4)]

### IV.

Сьвітала. Купальская вясьняная ноч дабегала да канца. На ўсходзе падыймалася сонца. Гэтай самай дарогай, пры каторай Казюк першы раз пабачыў Ганку, адводзіў цяпер яе да хаты з беларускае вечарыны. Сьцежкамі, дарожкамі вадзіла іх жыцьцё, аж прывяла судзьба на адну супольную дарогу аднолькавых імкненьняў і супольнае працы для дабра Беларускага Народу, якая злучыла ня толькі іхнія грамадзкія парывы, але і сэрцы. Дарога ішла над жоўта-яснымі берагамі Дзьвіны... Шумелі серабрыстыя хвалі лагодным шопатам і заціхалі на зялёным прасторы лугоў... Тут-жа быў і лясок беразьняк, а за ім крыху далей ціхі, стары магільнік з пахілымі крыжамі. Магілы старыя запалыя, бярозы-ж шумелі нейкім дзіўным сумам, быццам успамінаючы пражытыя дні адпачываючых тут людзей.

Затрымалася маладая пара. Пахіліліся галовы над шэрым памятнікам, абросшым зялёным мохам, вочы-ж шукалі напісу: 1851 г. — вышапталі вусны. Так даўно... Што кахалі гэтыя людзі, якія былі іхнія думкі і лятуценьні?..

Дрыжэлі лісточкі старых бяроз і быццам шапталі ў адказ: „Зямлю любілі, родны край і працу, і сьлёзы, і боль, і радасьць з зямлі і для зямлі былі“.... Нізка схіляліся над магіламі ясныя галовы, скупаныя ў золаце сонца. Дрыжэлі лісточкі бяроз, далей снуючы сваю ціхую песьню:

„На цябе наша моладзь надзея,
Нашай сумнай гаротнай зямлі...“

Аддаўшы паклон прэдкам, Казюк з Ганкай вярнуліся на свой шлях. Ішлі яны аблітыя залатымі сонечнымі касулямі. Наўкола хвалявала жытняе мора... Кланяліся ім каласы, падалі пад ногі брылянтовыя каплі расы... Шумела, сьпявала зямля:

„На цябе, наша моладзь, надзея...“

Маўчалі вусны, чуваць было толькі моцны стук сэрцаў... І раптам разбуджаны, сонечны сьвет заліла песьня. Гэта моладзь, ідучы дамоў, сьпявала свой гімн беларускі:

*„Не пагаснуць зоркі ў небе,*
*Пакуль неба будзе,*
*Не загіне край наш родны*
*Пакуль жывуць людзі...“*

(Канец).

# Zbiełaruskaha žyćcia

**Viečar biełaruskaje paezii ŭ Litoŭcaŭ.** 17.V. sioleta ŭ Litoŭskim Tavarystvie Mastactva i Litaratury ŭ Vilni adbyŭsia Viečar biełaruskaje paezii. Pačaŭ viečar pramovaj staršynia T-va ks. šambelan dr. A. Viskantas, jaki, pryvitaŭšy šmatlikich prysutnych biełarusaŭ i litoŭcaŭ i padčyrknuŭšy vialikaje značeńnie supolnaha litoŭska-biełaruskaha litaraturnaha viečaru, da prezydyjumu zaprasiŭ pradstaŭnika ad biełarusaŭ redaktara litaraturna-navukovaha časapisu „Kałośsie" mgr. J. Šutoviča. Referat ab biełaruskaj litaratury palitoŭsku pračytaŭ dr. V. Tumaš (biełarus). Paśla mgr. J. Chvorast, stud. Suchaja deklamavali vieršy biełaruskich paetaŭ: M. Mašary, N. Arsieńnievaj, M. Vasilka, K. Svajaka, Vincuka Advažnaha, Biarozki i Chv. Iljaševiča. Maksim Tank sam čytaŭ svaje tvory. Aprača taho dr. V. Tumaš pračytaŭ niekalki vieršaŭ bieł. paetaŭ pierakładzienych na litoŭskuju movu i niekalki vieršaŭ litoŭskich paetaŭ pierakładzienych na biełaruskuju movu. Referat ahułam byŭ dobry, tolki moža lektar, dr. V. Tumaš, padchodziŭ da niekatorych paetaŭ za nadta subjektyŭna, badaj vyklučna pavodle svajho ŭspadabańnia. Z deklamacyjaŭ najbolš udała vyjšli bajki Vincuka Advažnaha. — Viečar prajšoŭ u vielmi miłym nastroi i, biazumoŭna, pryčynicca da bližejšaha supolnaha paznańnia miž litoŭcami i biełarusami. — Daviedvajemsia pry hetym, što vialikaja častka čarhovaje — II(15) knižki bieł. lit. čas. „Kałośsia", katoraja ciapier znachodzicca ŭ druku, budzie pryśviačana litoŭskaj litaratury.

**„Źviaz" užo źlikvidavany.** 16.V.38 h. Vilenski vajavoda zahadaŭ źlikvidavać Biełaruski Haspadarski Źviaz, dziejnaść jakoha miesiac tamu była spyniena Vil. Haradz. Starastam. Bieł. Hasp. Źviaz byŭ apošniaj bieł. kulturnaaśvietnaj arhanizacyjaj paśla likvidacyi T.B.Š i BIHiK.—Prypaminajem, što hod tamu nazad, kali dziejnaść Źviazu pačała ažyŭlacca, redaktar „Беларускага Фронту" tak ab hetym napisaŭ, što tady ŭžo padsoŭvaŭ pryčyny dziela likvidacyi hetaje arhanizacyi. Tady dla nas heta było dziŭna, ale ciapier ŭsio vyjaśniłasia, bo z apošniaha numaru „Бел. Фронту" (za miesiac maj 1938 h.) vidać, što heta hazeta jdzie śledam viedamaha polskaha sanacyjnaha palityka, jaraha nacyjanalista, dr. Bobžanskaha, prahrama jakoha ŭ tym, kab pieradusim raźbić Ukraincaŭ, padtrymlivajučy miž inšym i vysoŭvajučy suproć ich Biełarusaŭ, a paśla, jasna, pryjdzie čarha i na raźbivańnie Biełarusaŭ. Kab prykryć svaje plany i rabotu, redaktar „Б. Ф." cełу čas zusim biezpadstaŭna pisaŭ, što „Šlach Moładzi" vioŭ niejkija hutarki (ničoha padobnaha nia było) z demakratyčnym „Kur. Powszch." Pry hetym adznačajem, što my hutarak z ludźmi, jakija pryznajuć demakratyčnyja pryncypy, nia stydajemsia i kali-b takaja hutarka była, to jaje napeŭna nie chavali-b.

**Tvory Mašary i Tanka papolsku.** U № 8 polskaha litaraturnaha časapisu „Kamena" sioleta, miž inšym, nadrukavana niekalki vieršaŭ biełaruskich paetaŭ M. Mašary i M. Tanka ŭ vielmi ŭdałym pierakładzie na polskuju movu redaktara hetaha časapisu A. A. Javorskaha.

**Vodhuki artykułu ab antysemityźmie.** Nadrukavany ŭ № 11(127) „Šlachu Moładzi" artykuł: „Da spravy raźvićcia antysemityzmu,"znajšoŭ šyroki vodhuk u žydoŭskaj presie. Byŭ jon miž inšym pieradrukavany ŭ „Fołkscajtunhu" (centralny orhan sacyjalistyčnaha „Bundu", jaki vychodzić u Varšavie), u demakratyčnaj vilenskaj hazecie „Unzer Tog", u hazecie vilenskich syjanistaŭ „Cajt", „Ovent Kurjery" i ŭ inš.

## Украінцы дамагаюцца аўтаноміі

Невясёлыя часы настаюць і для Украінцаў. Апошнімі днямі польскія ўлады ў Львове спынілі дзейнасьць таварыства украінскіх работнікаў „Сыла" і „Саюз Украінак," які меў 40 000 сяброваk і 1200 гурткоў на правінцыі. Спынены так жа часапісы „Союзу Українак" — „Жінка" і „Українка." З незалежных такжа прычын ад Т-ва „Просвіта" адкліканы Украінскі Кангрэс Культуры, які меўся адбыцца 22.V.38 у чэсьць 70-цігодзьдзя існаваньня гэтай культурна-асьветнай арганізацыі. Трывогай абляцела украінскую прэсу вестка аб тым, што быццам мае быць выкуплены і аддадзены для ваенных мэтаў „Українські Город" (вялікі прыгожы пляц) у Львове. У такой атмасфэры адбылася нарада Цэнтральнага Камітэту Украінскага Нацыянальнага Аб'еднаньня, якая прыняла дэкларацыю з дамаганьнем: 1. прызнаньня украінскаму народу ў Польскім Гаспадарстве асобнай нацыянальнай асабовасьці; 2. тэрыторыяльнай аўтаноміі і 3. заспакаеньня найгалаўнейшых патрэбаў украінскага нацыянальнага жыцьця.

Вучнёўскі Самаўрад Віленскай Беларускай Гімназіі, ў чэсьць імянінаў дырэктара Мікалая Анцукевіча, ахвяравау на Стыпэндыяльны фонд пры „Шляху Моладзі" 5 злотаў.

За ахвяру гэту шчыра дзякуем.

Рэд. „Шл. Мол."



Гітлер і Мусоліні, якія нядаўна браталіся ў Італіі і палітыка каторых трывожыць увесь сьвет.

## ШТО ЧУВАЦЬ

— У **Польшчы** далей найважнейшай унутранай справай зьяўляецца справа агульнага аб'яднаньня, якую галоўным чынам усьцяж закранае ОЗН, і справа ўзбраеньня. На гэтыя больш-менш тэмы былі апошнім часам прамовы: П. Прэзыдэнта Ігната Масьціцкага, Маршала Рыдз-Сьміглага, віцэ-прэм'ера Квяткоўскага, ген. Скварчынскага і інш. выдатных дзеячоў. Трэба аднак сказаць, што кансалідацыя не ўдаецца.—20—23 г. м. у Польшчы гасьціў прэм'ер **Румыніі**, патрыярх Мірон.

— **20 г. м.** віленскі „Кур'ер Повшэхны" надрукаваў вельмі цікавы артыкул аб **Савецкай Беларусі**, п. н. „У Савецкай Беларусі як на вулькане." Паводле гэтага артыкулу апошнім часам у БССР выкрыта сільная апазыцыйная вайсковая арганізацыя, якая вяла вельмі энэргічную акцыю сярод вайсковых. На чале гэтай арганізацыі стаялі капітан Ул. Шауроў і маёр Тымкоў, а так-жа палітычны камісар менскага гарнізону палк. Канюхоў, які вёў правіцовую (чытай нацыянальна беларускую) агітацыю сярод малодшых афіцэраў і жаўнераў. Арганізацыя гэтая выклікала ў канцы красавіка сёл. ў Менску бунт, які ўсьмiралі спэцыяльныя аддзелы з Масквы. Пасьля быў бунт у Віцебску, які ўсьмiралі так-жа спэцыяльныя аддзелы на танках і з браніраваных цягнікоў. Барацьба трывала некалькі гадзін. У выніку было расстраляна каля 100 афіцэраў. Аднак і бунтаўшчыкі застрэлілі палітычнага камісара Сьмірнова. Пасьля гэтага ўвесь Віцебскі гарнізон вывезены ў Сібір. Апазыцыйны рух на Беларусі з кожным днём расьце і абыймае што раз шырэйшыя кругі сялян, работнікаў, інтэлігенцыі, а найгалаўнейшае—войска. Ёсьць гэта, бязумоўна, вынік прасьледу Масквой усяго беларускага.

— **Між Літвой і Польшчай** ўжо адбываецца нармальныя паштовыя і тэлефонічна-тэлеграфічныя зносіны, а хутка будзе можна ўжо і езьдзіць за адпаведным, ясна, загранічным пашпартам.

— У маі месяцы адбылася чарговая 101 сэсія **Лігі Народаў**, якая аканчальна скампрамітавалася, даючы вольную руку ўсім гаспадарствам у справе прызнаваньня падбою Абісыніі Італіяй. Абісынія, як ведама, была і цяпер яшчэ ёсьць сябрам Лігі Народаў, якая гварантавала ёй усе гаспадарственныя правы.

— У **Чэхаславацыі** неспакойна. Немцы ўсьцяж бурацца і выклікаюць розныя непарадкі. Але моцна трымаюцца і чэхі.

— Агульная ацэна аб **паездцы Гітлера ў Італію** дзеліцца на двое. Адны кажуць, што паездка гэта нічога не дала і што італіянска-нямецкія адносіны астываюць, а другія кажуць, што яна аднак **узмоцніла італіянска-нямецкі саюз** і гэта здаецца ёсьць бліжэй праўды. Прынамсі так выглядае пасьля вялікае палітычнае прамовы Мусоліні ў Гэнуі 14 г. м., дзе ён між іншым сказаў, што калі-б дэмакратычныя гаспадарствы гатовіліся да вайны з таталістычнымі гаспадарствамі (Нямеччына і Італія), дык яны зараз створаць блёк і пойдуць разам, аж да канца. Пры тым Мусоліні выказаўся процiў **Францыі** і з гэтай прычыны перарваныя пачатыя ўжо француска-італіянскія гутаркі аб унармалізаваньні адносінаў.

— У **Мадзяршчыне і Бэльгіі** адбыліся зьмены ўрадаў, каторыя аднак здаецца ня будуць мець большага значэньня ў палітыцы. Цікава толькі адзначыць, што на чале бэльгійскага ўраду стаіць цяпер сацыяліст Спаак, каторы будзе галоўным дарадчыкам караля.

— 11 г. м. у **Бразыліі** фашысты хацелі зрабіць пераварот і ўладу захапіць у свае рукі, аднак ім гэта не ўдалося. Характэрна, што ў барацьбе з фашыстамі змагаўся асабіста сам Прэзыдэнт Бразыліі з сваей жонкай і дачкой, страляючы з кулямёту, калі фашысты напалі на ягоны палац.

— У **Гішпаніі** фашыстам удаецца пакрысе далей наступаць і забіраць новыя абшары.

— На **Далёкім Усходзе** адбылася вялікая барацьба каля м. Сучаў, дзе перамаглі японцы, змушаючы кітайцаў адступіць. Газэты падаюць, што ў Кітаі згінула ўжо ў часе сучаснае вайны 350.000 японцаў.

*jn.*

## Usiačyna

**Jak doŭha žyvuć drevy.** Doślady havorać, što jabłynia dzikaja žyvie (raście) 150 hod, a ščeplenaja — ŭsiaho 80 hod. Hruša dzikaja žyvie 180 h., a ščeplenaja — 100 h. Vałoskija harechi žyvuć da 800 hod. Kaštan dažyvaje da 200 h., dzikaja roža da 400 h. Sasna žyvie 300 h.; javar, klon, biaroza i buk dažyvajuć da 900 hod. Dub moža žyć da 4 tys. hod.

**Tajnyja bravarki.** Niadaŭna skarbovyja ŭłady vykryli ŭ Vilenščynie 47 tajnych bravarkoŭ, u jakich hnali samahonku. Pry tym skanfiskavana 1200 litraŭ samahonki i aryštavana 56 samahonščykaŭ. Kali-ž nareščie, kali pierastanie źbirać tak vialikija achviary ŭ nas alkahol, kali pierastanie ništožyć našy vioski i naš narod, kali dojduć našy ludzi da rozumu i kinuć praklatuju harul..

**Asvojeny voŭk zahryz chłapca.** Nadoviačy ŭ Vilni staŭsia strašny vypadak. Asvojeny voŭk sarvaŭsla z łancuha i ŭdzień napaŭ na dvuch chłapcoŭ, z jakich adnaho zahryz na śmierć.

**Strašnaja katastrofa ŭ kapalni vuhla** zdaryłasia apošnimi dniami ŭ Anhlii, u časie jakoje žhinuła 80 vuhlakopaŭ, a 36 asob mocna paraniena. Aprača hetaha apošnimi časami prosta masava zdarajucca ŭ Anhlii latunskija katastofy, u katorych hinie vielmi šmat latunoŭ, što vyklikała siarod anhlijcaŭ vialikuju tryvohu.

## „Hierojstva" syna Musoliniha

Syn dyktatara Italii Musoliniha, jaki asabista braŭ udzieł u italijanska-abisynskaj vajnie, niadaŭna vydaŭ u formie knižki svaje ŭspaminy z frontu, dzie byŭ jon u roli latuna. Dziŭnyja heta ŭspaminy i śviedčać biazumoŭna ab maralnym zbačeńni samaha »hieroja».Bo čym-ža chvalicca małady Musolini? —

Voš-ža jon u pieršuju čarhu žalicca, što „abisynskija lapianki, zbudavanyja z chvorastu i hliny, nie davali jamu nijakaha zadavaleńnia padčas ich bambardavańnia," bo „nikoli nia mieŭ ščaścia vidzieć vialikaha pažaru" — piša 23-ch hodni Musolini i cynična maluje abraz vajennaha źniščeńnia hetkimi słavami: „Vidavočna chočačy zrabić mnie pryjemnaść, naznačyli mianie ŭ latničy addzieł, jakoha było zadańniem bambardavańnie Addis-Abeby. Lotajem nad miestam i bačym razłožanyja systematyčna biełyja punkciki. Heta abisynskija lapianki. Serca napoŭniłasia radaściaj. Zaraz-ža apynuŭsia nad imi i skinuŭ uniz usie bomby z svajho aeraplanu. Efekt byŭ nadzvyčajny. Abłomki lapianak padyjmalisia vysaka ŭharu. Hladzieŭ z radaściaj na chmary dymu i na ludziej, što razbiahalisia ŭ biazładździ chto kudy..." I hetak dalej apisvaje svajo „maralnaje" zdavaleńnie „hieroj" sučasnaści, vyjaŭlajučy fašystaŭskuju etyku.

Pierasyłka apłačana ryčałtam.



# З КРАЮ

## Аб культурнай беларускай працы і аб роварах.

*в. Асташын, Наваградзкі пав.* Асташынская моладзь усьцяж у меру магчымасьці працуе. Увесь пост вывучвала п'есу „Страхі жыцьця", хочучы паставіць яе на 3-ці дзень Вялікадня, але нажаль старaства не дало дазволу на гэта прадстаўленьне. Перабой гэты аднак не астудзіў нашай моладзі, яна дружна ўзялася за другую беларускую п'есу „Вось тут і зразумей" — Міхася Машары. Палажыўшы многа сілы і цярплівасьці здалелі за кароткі час яе вывучыць і паставілі 8.V. Прадстаўленьне ўдалося, моладзі сабралася многа, бо ўсе ведалі, што асташынцы робяць культурную работы і грошаў не змарнуюць.

Пры гэтым хачу зьвярнуць увагу, што цяпер моладзь пачала масава купляць ровары (вэласыпэды), ня гледзячы на тое, што ў хатах часта няма кавалка хлеба, уважаючы што ровар дае вялікі гонар. Ды пры тым пачынаюць шалёна езьдзіць, ды яшчэ з дзяўчатамі на рамах, што выглядае вельмі брыдка. Апрача таго едучы ўдваіх нявыгодна кіраваць і часта здараюцца выпадкі і калецтва, так як гэта было ў нашай гміне на Юр'я, дзе хлапец наехаў на дзіця і моцна яго пакалечыў.

Дык-жа больш увагі і менш пустога зухавацтва. Ровар добрая рэч, калі хто яго можа купіць і належна з яго карыстаць. Але ня ровар дае чалавеку павагу, гонар і пашану ў людзях, а ягонае жыцьцё, захаваньне і культурная грамадзкая праца на сваёй роднай ніве, для свайго народу.

*Б—рус.*

## Кіньма кепскія прывычкі!

*в. Баяры, Мядзельскай вол., Пастаўскага пав.* Цяжка жыць сягоньня нашаму брату селяніну. Усе мы наракаем, але на каго наракаць? — Апрача прычын звонку, мы і самі вінаваты многа ў сваей бядзе. У нас, у Баярах ёсьць некалькі сьветлых адзінак, каторыя, стойка стараюцца пашыраць асьвету, без якой сягоньня немагчыма падняць матарыяльнага дабрабыту. Але большасьць аддаецца гульні ў карты і піцьцю гарэлкі.

Дарагія браты! Пара працёрці вочы і пакінуць благія прывычкі, каторыя апрача згубы нічога нам не прынясуць. Пара за прыкладам лепшых сыноў нашага народу, і народаў іншых, брацца за карысную працу, калі ня хочам быць у бядзе, калі ня хочам, каб нас выкарыстывалі і аднача сна насьмяхаліся з нас.

*Свой.*

## Паштовая скрынка

А. Гацуры: Верш і грошы атрымалі, дзякуем, будзем карыстаць.

Б--рус: Карэспандэнцыю друкуем. Патрэбныя нумары „Шл. Мол" высылаем паўторна. Вершы слабаватыя. Больш працуйце над сабой і над сваімі творамі, а магчыма, што выйдуць зусім добра.

J. Kazł.: Vysyłajem i čakajem na abiacanaje.

E. Sielaŭcy: Apaviadańnie Vaša napisana słabavata, ale zdolnaści da piara majecie i kali bolš budziecie pracavać, to moža vyjdzie dobra. Piara radzim nia kidać.

Свайму: Карэспандэнцыю друкуем. Просьбу споўнілі. „Шл. Мол." усім высылаем акуратна.

Я. Б—лю: П'есу выслалі. Як выкарыстаеце, просім ізноў нам прыслаць.

П. Граніту: Матарыялы атрымалі, дзякуем, у меру магчымасьці будзем карыстаць. Прозай радзім далей рабіць спробы.

M. Rakaču: Časapis vysyłajem Vam akuratna praz uvieś čas. Dziela taho adnak, što Vy jaho nie atrymoŭvajecie, budziem zmušany padać na Vašu poštu Turec skarhu.

**Гарэлка нішчыць здароўе, руйнуе чалавека маральна і матарыяльна. Асьвета, кніжка ўзбагачвае, ушляхатняе чалавека і вядзе да лепшага жыцьця!**

Абвяшчаецца, што 17-га чэрвеня 1938 году адбудуцца

## ўступныя экзамены

## ў Віленскую Беларускую Дзяржаўную Гімназію

### Варункі прыйма:

У І КЛЯСУ прыймаюцца дзеці (хлапцы і дзяўчаты) якія: 1) будуць мець на 1-га верасьня 1938 г. ня менш 12 і няпоўных 16 гадоў і 2) скончылі 6 (шэсьць) ці 7 (сем) аддзелаў пачаткавай школы. Хто перарос ня больш як на адзін год, можа складаць просьбу ў Куратoрыю аб дапушчэньні да экзамену. Хто прадставіць пасьведчаньне аб скончэньні 6 ці 7 аддзелаў пач. школы, той здае экзамен паступаючы у І-ю кл. (былую ІІІ кл.) толькі з польскае мовы, арытмэтыкі і географіі. Іншыя кандыдаты здаюць поўны экзамен з 6-ці аддзелаў пач. школ.

У ІІ КЛЯСУ прыймаюцца дзеці па экзамену з усіх прадметаў у абойме праграмы І кл. гімназіі, калі на 1.ІХ.1938 г. будуць мець ня менш 13 і ня больш 16 гадоў.

Заявы прыймаюцца да 15 чэрвеня 1938 г. Да заявы трэба далучыць: 1) мэтрыку, 2) школьнае пасьведчаньне, 3) пасьведчаньне аб прышчэпе воспы, 4) дэклярацыю аб тым, што кандыдат па нацыянальнасьці беларус; ды пераслаць на Р. К. О. (блянкет можна купіць на кожнай пошце) 10 зл. за экзамен на наступны адрыс: Filija Białoruska Państwowego Gimnazjum im. J. Słowackiego w Wilnie P. K. O. № 703.304. — Плата за навуку 220 зл. у год.

Віленская Беларуская Гімназія мае такія самыя правы, як і польскія дзяржаўныя гімназіі.

*Адрыс Бел. Гімназіі наступны: Biełaruskaja Filija Państw. Gimnazjum im. J. Słowackiego — Wilno, ul. Dominikańska 3/5.*

*„Шлях Моладзі" рэдагуе Рэдакцыйная Калегія. Друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная 1-2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча.*

**Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вуліца № 1—2 (Wilno, Zawalna 1—2).**

„ШЛЯХ МОЛАДЗІ" выходзіць два разы ў месяц: 5 і 25. Падпіска на год 2 зл. і 50 гр., на паўгода 1 зл. 50 гр., на 3 мес.—75 гр. Цана аднаго экзэмпляра 15 грошаў. — Заграніцу ўдвая даражэй. — Нумар картатэкі „przekazu rozrachunkowego" 59.

Выдавец: „БЕЛПРЭС". Рэдактар: Я. НАЙДЗЮК.